# ГАДУЙЦЕ ТРУСОЎ

Большасьць з вас, дзеці, напэўна бачылі вёрткіх, прыгожых зьвяркоў — трусоў. Падобны яны на зайцоў.

Але ці ведаеце вы, што трусы даюць вельмі вялікую карысьць гаспадарцы. Мяса іх вельмі смачнае. А з шкурак шыюць шапкі і іншую вопратку. З кішак трусоў робяць тонкія гатункі струн.

Вырастаюць трусы да 6 кілёграм, а то і больш. Множацца яны надзвычайна хутка. Адна самка можа прывесьці за год каля 60 трусікаў.

Выгадны яны яшчэ і тым, што разводзіць іх лёгка і гэта па сіле дзецям. Але мы яшчэ зусім мала зьвяртаем увагі на гадоўлю трусоў.

За пяцігодку мы павінны разьвесьці трусоў да 50 мільёнаў штук, загатовіць трусіных шкурак да 75 мільёнаў штук, мяса да 25 тысяч тон.

Толькі за адзін апошні год пяцігодкі мы павінны па ўсім Саюзе загатовіць 65 мільёнаў шкурак на 130 мільёнаў руб. і 15 тысяч тон мяса на 7½ мільёнаў рублёў.

Бачыце, якія вялікія лічбы. Мы іх павінны выканаць. А гэта дасьць вялікі ўклад у нашу соцыялістычную гаспадарку.

Акцябраты, піонэры і вучні павінны ўзяцца за гадоўлю трусоў. Зьвярнецеся да праўленьня колгасу, каб вам даручылі гэту працу. Парайцеся аб гэтым з аграномам.

Растлумачце дарослым пра карысьць ад гадоўлі трусоў. Раскажэце аб тых заданьнях, якія мы павінны выканаць па гадоўлі трусоў за пяцігодку.



*Трактары за працай*
*Мал. М. ГУТКОЎСКАГА (8 год).*

**Дзеці! Шлеце ў рэдакцыю свае малюнкі. Лепшыя з іх будуць надрукаваны ў часопісі.**

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц . . | 15 к. |
| На 3 м-цы . . | 45 к. |
| На 6 м-цаў . . | 90 к. |
| На 1 год. . | 1 р. 80 к. |

№ 5 май 1931 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25




На базе суцэльнай колектывізацыі ліквідуем кулацтва як клясу!

# ТРАКТАРЫСТЫ

*Апавяданьне К. ГАЛІЦЫНСКАГА.*
*Малюнкі Н. АЛЕКО.*

Юрка і Косьцік часта атрымлівалі лісты ад свайго дзеда.

„Прыяжджайце, — пісаў дзед Міхайла, — улетку ў нас добра. Лес, лугі, рэчка, ня тое, што ў вас, — брук каменны гарачынёю дыхае“.

Бацька згадзіўся завесьці Юрку з Косьцікам да дзеда ў вёску. Селі на цягнік і паехалі.

На станцыі „Лысая гара“ сустрэў іх дзед.

Юрка бачыў дзеда першы раз, але дзед яму чамусьці спадабаўся. Такі высокі, шырокі ў плечах, гаваркі.

Дарога ад станцыі ішла праз лес. Юрка сядзеў у дзеда на каленях і нукаў на каня, тузаў лейцамі. Конь матаў галавою, і неахвотна бег. За лесам пачыналася поле. Жыта высокае, белае, нізка сагнуліся каласы.

Убачыў Юрка, як каля дарогі затарахцела машына. Ідзе машына і ад высокай, густой сьцяны жыта толькі іржэўнік застаецца. Лажацца снапы стройнымі радамі.

Падняўся на возе Юрка.

— Во гэта дык работа. Дзядуля, у цябе таксама машына ёсьць?

Надзьмуўся дзед, замармытаў:

— Колгаская гэта. У нас няма, унучак.



— А чаму няма?

— Чаму, чаму, — перапыніў Косьцік. — А таму, што на машыну людзей многа патрэбна.

— А чаму дзед не ў колгасе? — не ўгамоніцца ніяк Юрка.

— Вот які цікавы, — сьмяецца дзед, — малы, а такі, шустры.

Не пасьпелі прыехаць, а дзеці пад вакном ужо.

— Юрка, Косьцік, айда на вуліцу.

Зьдзівіўся Юрка, пытае:

— Адкуль вы ведаеце, як нас заваць?

— Мы? — сьмяюцца дзеці, — мы ўсё ведаем.

— Хадзем на рэчку.

— Хадзем, — згадзіліся хлопцы. — А вас як завуць?

— Мяне — Васіль, а яго — Валодзік.

На беразе рэчкі дзеці разьдзеліся і бабух у ваду. Паплылі. Юрка і Косьцік на беразе засталіся, глядзяць.

— А вы чаму-ж?

— Мы плаваць ня ўмеем.

— Мы навучым,—а самі нурцуюць, выплываюць, фыркаюць, потым зноў на дно.

— Юрка, Косьцік!

Аглянуліся хлопцы. Бабка падышла, стаіць, рукамі размахвае.

— Куды-ж гэта вы надумаліся? Адвярнуцца ад вас нельга, утопіцеся.

— А як-жа яны?

— Яны—яны прывычныя, хадзем лепш піць малако.

Нехаця пашлі назад з бабкай, а з вады таварышы крычаць, дражнячы:

— Па траве хаця асьцярожна ідзеце, а то ножкі паколеце.

*
* *

Гумно ў дзеда—поруч з колгаскімі. Стукае дзед з бабкаю па снапох цапамі. Тук, тук, павольна, сумна, а ў колгасе машына гудзе. Людзі завіхаюцца, салома расьце стагамі, зерне—мяшкамі.

Падбяжыць Юрка да дзеда.

— Дзед, глядзі, як малоцяць, а вы з бабкаю—плюх, плюх.





— Пашоў, жэўжык,—усьміхаецца дзед,—а то цэпа заробіш. А бабка тут-сюд ды і скосіць вочы на гумно колгасьнікаў.

— І праўда, стары, лягчэй там: бачыш, машына як пытлюе—пасьпявай толькі зьбіраць.

Крывіцца дзед, мармыча.

— А ну вас, колгасьнікі...

На колгасным гумне малацьба канчаецца, а ў дзеда яшчэ застаронак непачаты.

Неба хмарыцца, скора і дажджы пойдуць.

Сьпяшаецца дзед, падганяе бабку.

— Давай, баба, жвавей, на насеньне яшчэ не намалацілі. Гэтак стукаць будзем,—на тыдні тры хопіць. Сеяць трэба.

Падганяе бабку, а работа на месцы. Змарыліся рукі, радзеюць узмахі, слабеюць удары.

Паглядзеў Юрка, падумаў, паклікаў Косьціка і кажа:

— Ведаеш, Косьцік, хадзем да дзядзькі Васіля, папросім трактара, дзеду жыта змалаціць.

— Ня дасьць.

— Дасьць.

— А кіраваць трактарам хто будзе?

— Я ведаю як.

Згадзіўся Косьцік.

— Хадзем.

Падышлі да гумна, дзе малацілі трактарам. Струсіў Юрка, Косьціка наперад штурхае.

— Ідзі ты, а я за табою.

— Не,—ты.

Убачыў старшыня колгасу, засьмяяўся.

— Вы чаго, акцябраткі, памагаць, ці што? А ну хадзі, ня бойся.

Пасьмялеў Юрка, наперад вышаў.

— Дзядзька, Васіль, дай нам трактара—дзеду змалаціць.

Старшыня ссунуў на патыліцу шапку, засьмяяўся.

— Ах вы, карапузы, а хто трактарам кіраваць будзе?

Вясёлы дзядзька Васіль. Яшчэ больш асьмеліўся Юрка.

— Я, дзядзька Васіль.

— Ты, ну добра, хадзі,—трактарыстым будзеш.

Юрка падступіўся да трактара паспрабаў за ручку, ручка—ні з месца.

— Косьцік, памагай!

Узяліся двое, нічога ня выходзіць. Адышліся заклапочаныя. І зноў Юрка да старшыні:

— Нам-бы вось толькі пусьціць яго.

Сьмяецца дзядзька Васіль.

— Вашаму дзеду ў колгас трэба.

— А вы памажэце, дык тады ён і пойдзе.



— Ну і акцябраты!—паківаў галавою старшыня.

Сабраў мужчын.

— Вось што, дэлегацыя тут дзеду Міхайлу дапамогі просіць. Мы сваё ўжо змалацілі—згодны?

Паглядзелі мужчыны на дзяцей.

— Згодны,— кажуць.

Пакруціў старшыня за ручку трактара.

— Ход!

А трактарысты па-вайсковаму:

— Ёсьць ход!

Дзед Міхайла з бабкаю раты паразяўлялі.

Прэ трактар на іх гумно.

Сьмяецца трактарысты, а з-за сьпіны Юрка з Косьцікам выглядваюць, рукамі махаюць, крычаць нешта. Ззаду—колгасьнікі з вілкамі, з граблямі. Гадзіны праз тры ад дзедавага жыта не засталося ні снопа. А ўвечары дзед Міхайла дыктаваў Косьціку заяву, каб яго прынялі ў колгас.



Скакаў Юрка, радаваўся і крычаў:

— А я трактарыстым буду. Так, дзед?

— Але, але,—усьміхаўся дзед.

# ВЯСНОЮ

*Верш дзяткоркі Л. КАРОТКАЙ*

Прыляцелі птушкі
К нам з цёплых краін.
У маленькай лужыне
Дзеці ладзяць млын.
Вось карапуз „Будзёны“
З гурбой дзяцей ідзе:
Пастроіў у колёны іх,
Ў вайну гуляць вядзе.
І там далей, за горкай,
Дзе зелянее гай,
Дзецям ён гаворыць
Пра сьвята Першы Май.
— Першае Мая—сьвята
працоўных,
Сьвята рабочых усяго сьвету·
Няхай жыве камандзір наш
Будзёны!
Няхай жывуць Саветы!



# Дзьве краіны

## І, МЫ БУДУЕМ КРАІНУ ПАВОДЛЕ ПЛЯНУ,

Наша пяцігодка, гэта—плян перабудовы ўсяе краіны.

Паводле гэтага пляну мы павінны пабудаваць каля 2½ тысяч заводаў. І ня толькі заводаў, але і гарадоў, і электрычных станцый, і мастоў і караблёў, і чыгунак, і капальняў, і саўгасаў, і колгасаў, і школ, і бібліотэк. Складалі гэты плян не адзін і ня два чалавекі, а тысячы людзей. Будуюць-жа краіну паводле гэтага пляну не дзесяткі рабочых, а мільёны.

З 1-га кастрычніка 1928 года мы пачалі выконваць пяцігодку. Але ўжо на другі год выясьнілася, што пяцігодка будзе выканана не за пяць, а за чатыры гады. А праз нейкі час стала вядома, што па асноўных галінах вытворчасьці пяцігодка будзе выканана нават за тры і два з палавінаю гады. Так, **пяцігодка па нафце ўжо выканана за два з палавінаю гады.** Гэта першае самае вялікае дасягненьне працоўных нашай краіны. Рабочыя ўсе сілы аддаюць на тое, каб чым скарэй выканаць пяцігодку, каб зрабіць нашу краіну магутнай соцыялістычнай краінай.

Такіх плянаў будаўніцтва яшчэ ня было ніколі і нідзе на сьвеце.



*Самая вялікая ў Савецкім Саюзе Доменная печ, дзе выплаўляюць з жалезнай руды чыгун.*

Буржуазныя дзяржавы праводзяць будаўніцтва зусім ня так,—бяз пляну. І вось, што з гэтага выходзіць. Возьмем для прыкладу самую багатую краіну **Амэрыку.** У Амэрыцы многа вялікіх заводаў, гарадоў, на палёх працуе мільён трактароў. Але як працуюць гэтыя заводы? Без аніякага агульнага пляну, кожны капіталіст робіць, што яму ў той ці іншы час выгадней, што дае больш прыбытку.

## II. ШТО БЫВАЕ, КАЛІ ПРАЦУЮЦЬ БЯЗ ПЛЯНУ

У амэрыканскага буржуя Фокса завяліся грсшы—мільён даляраў. Але грошы не павінны ляжаць без работы. Фокс наймае агэнтаў, раіцца з сябрамі, якую-б даць работу яго мільёну. Агэнты з ранку да вечара бегаюць па гораду, выглядаюць, выпытваюць. Куды падзець грошы буржуя Фокса?

І, нарэшце, работа для іх знойдзена. Капялюшы. Вось, што трэба рабіць. Капялюшы разыходзяцца добра, людзі багацеюць.

Думаць няма калі. Буржуй Фокс будуе фабрыку капялюшоў.

Тая-ж самая думка ў той-жа самы час прыходзіць у галаву і буржую Поксу, і Кроксу, і Ноксу. І ўсе яны ў адзін час пачынаюць будаваць фабрыкі капялюшоў.

Праз паўгода ў краіне вырастае некалькі новых капялюшных фабрык. Магазыны трашчаць ад капялюшоў. Усюды абвесткі, плякаты: капялюшы, капялюшы, капялюшы. Капялюшоў зроблена больш, чым трэба, у два разы больш, у тры, у чатыры. А фабрыкі працуюць на поўным ходу.

І тут адбываецца тое, чаго не чакалі ні Фокс, ні Нокс, ні Крокс. Людзі ня купляюць капялюшоў. Нікому яны больш не патрэбны. Што рабіць буржуям? Яны збаўляюць цану, а потым прадаюць іх з тратай для сябе, абы адчапіцца ад капялюшоў. Але і гэта іх не выратоўвае. Буржуй Фокс зьніжае зарплату рабочым на даляр на тыдзень.



*„Гэта шыльда паліць электрычнасьці больш, чым увесь горад“.*

Буржуй Крокс зьніжае зарплату на два даляры на тыдзень.

А справы капялюшныя ўсё горшаюць і горшаюць. І раптам—стой! Буржуй Фокс спыніў фабрыку. Рабочыя могуць ісьці, куды хочуць. На другі, трэці дзень гэта-ж зрабілі і Нокс, і Крокс. Праз нейкі час стаяць траха што ўсе фабрыкі капялюшоў. Тысячы рабочых—бяз працы. Машыны ржавеюць. Будынкі прадаюцца задарма, каб не займалі толькі месца.

Мінае год, другі. Капялюшы, купленыя ў Фокса, Крокса і Нокса знасіліся. Людзі зноў пачынаюць купляць капялюшы. Цана на іх расьце.



*ГРЭЙФЭР—прылада для карчаваньня пнёў пры асушках балот.*

І тады ўжо ня Фокс, а які-небудзь Дубль стараецца пагрэць рукі на капялюшох — будуе капялюшную фабрыку. Але такая-ж думка прыходзіць у галаву і другім разумным дзелавым буржуям—Будлю, Фудлю і Нудлю. І ўся гісторыя пачынаецца спачатку.

Тое, што адбываецца з капялюшамі, адбываецца і з цукрам, і з ботамі, і з чыгуном, і з вуглём, і з газаю і г. д. Фабрыкі растуць і разбураюцца. Можна падумаць, што людзі страцілі розум. І сапраўды так выходзіць. Вось яшчэ некалькі фактаў.

1-га верасьня 1920 году з Вашынгтону вышаў цягнік; паравоз і трыццаць вагонаў напакаваных гарбузамі. Гарбузы былі сьпелыя, моцныя, і кожны каштаваў 25 цэнтаў—поўрубля на нашыя грошы.

Цягнік пад'ехаў да ракі Патомак і спыніўся. Людзі выскачылі з вагонаў.

І раптам—хлоп, хлоп! Гарбузы пакаціліся ў ваду. Людзі працавалі скора. За дзьве хвіліны—вагон. Трыццаць вагонаў за гадзіну.

Паравоз даў сьвісток, цягнік рушыўся назад. Гарбузы-ж павольна паплылі па рацэ.

Гэтая гісторыя ня выдумана. Яна ўзята з кніжкі амэрыканца Сьцюарта Чэза. У гэтай кніжцы

ёсьць і яшчэ цікавыя факты. Вось некаторыя з іх.

У 1920 годзе тысячы вялізарных бутляў малака былі выліты ў рэчкі.

У 1924 годзе 24 чэрвеня тысячы мяшкоў агуркоў былі выкінуты ў мора.

У 1921 годзе амэрыканскія кулакі палілі жыта заместа вугалю. Гэтая-ж гісторыя паўтараецца часта.

Фабрыканты аўтомобіляў трацяць мільёны даляраў на тое, каб скупліваць і зьнішчаць старыя аўтомобілі.

Параходныя кампаніі зьнішчаюць сотнямі навейшыя параходы і моторныя лодкі.

А колькі грошай траціцца на рэкляму!

Вось маленькі прыклад. На страсе Кліўлендзкай кампаніі ў адным з амэрыканскіх гарадоў красуецца надпіс: „Гэта шыльда паліць больш электрычнасьці, чым увесь горад“. Для таго, каб прачытаць усе абвесткі, якія штогод друкуюцца ў амэрыканскіх газэтах, трэба было-б патраціць 500 гадоў.

Што гэта такое? Людзі ашалелі, ці што? Каму ад гэтага выгада?

Ад гэтага маюць выгаду тыя-ж буржуі Фоксы і Поксы. Яны паляць жыта, топяць агуркі, выліваюць малако ў рэчку і г. д. для таго, каб падняць цану на свае тавары.



*Сталёвыя вышкі электростанцыі вырастаюць па ўсёй нашай краіне.*

А ў гэты-ж час у гэтай-жа Амэрыцы сотні тысяч людзей галадаюць. Школьныя дактары гораду Нью-Іорку даводзяць, што з чатырох дзяцей гораду адно галадае.

Чаму-ж гэта так выходзіць? Буржуй Фокс вылівае малако ў рэчку, а тысячы людзей галадаюць?

А таму, што ён не клапоціцца пра дабрабыт усяе краіны, а пра сваю кішэнь. Ён робіць тое, што дае яму выгаду. Усе заводы, машыны, фабрыкі ў Амэрыцы належаць кучцы буржуяў, якія робяць з імі, што хочуць. Аднаму толькі „аўтамобільнаму каралю“ Форду належыць 60 заводаў у Амэрыцы і 28 у другіх краінах.

Калі сабраць усіх рабочых з заводаў Форда з іх сям'ямі, дык будзем мець краіну з трохмільённым насельніцтвам.



*Маскоўская фабрыка-кухня № 1. Яна гатовіць 12 тысяч абедаў за дзень.*

Аднаму належаць машыны, а праз гэта мільёнам прыходзіцца працаваць на яго.

## III. СССР і Амэрыка

У нас усе заводы, машыны і ўся краіна цалкам належаць працоўным. А гэта адразу мяняе справу. Рабочыя ня будуць ламаць машын, выліваць малако, паліць жыта заместа вугалю. На ўсё гэта патрачана праца саміх рабочых. Дык навошта-ж траціць дарэмна працу і час?

**У нас усё будуецца паводле пляну.** Мы робім тое, што патрэбна, і столькі, колькі патрэбна для ўсіх працоўных.

**У Амэрыцы — работа бяз пляну.** Там вытворчасцю кіруюць буржуі, якія зацікаўлены толькі ў нажыве.

**Для чаго буржуй Фокс будуе фабрыку** капялюшоў? Хіба-ж для таго, каб рабіць капялюшы? Зусім не. **Для таго, каб рабіць грошы.** Для яго ўсякая фабрыка—фабрыка грошай, фабрыка прыбытку. **І рабочы для буржуя Фокса** гэта не рабочы, не чалавек, а **машына для зда-**

бываньня прыбытку. Машыну з жалеза буржуй хоць колькінебудзь шануе, бо яна сапсуецца, а гэта будзе каштаваць многа грошай.

А машына-чалавек нічога не каштуе, на яе можна нагружаць колькі хочаш. Знасілася жывая машына, выбілася з сілы,—вон яе, знойдуцца другія.

Машына для амэрыканскага рабочага не памочнік, а вораг. Чым больш будуецца машын, тым больш беспрацоўных, больш галодных. Напрыклад, на гутах цяпер пры дапамозе машыны адзін чалавек робіць тую работу, якую некалі без машын рабіла 77 чалавек. Значыцца, 76 чалавек машына выкінула на вуліцу. І амэрыканскі рабочы ненавідзіць машыну.

А ў нас? Чым больш будзе машын, тым лягчэй будзе працаваць, тым карацейшым будзе рабочы дзень.



*За пяцігодку ў нашым Саюзе вырастае некалькі магутных трактарных заводаў. Такі завод будзе выпускаць гатовы трактар праз кожныя 6 хвілін.*

**Мы будуем фабрыкі для таго, каб гэтыя фабрыкі працавалі на ўсіх,** давалі карысьць усім працоўным. Мы будуем у сваёй краіне новы нябывалы лад—соцыялістычны лад.

**М. Ільлін**

*(З кніжкі „План великих работ“).*



*Мэханічная перадача гатовых дошчак з заводу для пагрузкі і адпраўкі (Бабруйскі комбінат).*

# ДЗІЦЯЧЫ САД

*Апавяданьне К. ДЗЬМІТРАВАЙ.*
*Малюнкі Я. САМАТЫЯ.*

Ціха цяпер у вёсцы. Усе колгасьнікі працуюць на полі. Толькі старыя і дзеці засталіся дома.

Вось вышаў на вуліцу пасядзець стары дзед Апанас. Каля яго сабраліся дзеці. Бегаюць, качаюцца па пяску. Ніхто іх не даглядае.

Раптам падбег да дзяцей Кірылка і радасна абвясьціў:

—Маня! Маня з гораду вярнулася!

Дзед Апанас ня вельмі любіў Маню за тое, што яна ўсё пановаму рабіла. Гэта яна ўгаварвала ўсіх аддаць царкву пад клюб. А цяпер, вось ужо з месяц, паехала ў горад. Што-небудзь новае зноў прывязе... Дзед пытае ў дзяцей:

—І чаго гэта вы так узрадаваліся Мані?

—Што ты ня ведаеш чаго яна ў горад езьдзіла?—зьдзівіўся Кірылка.

—Адкуль-жа мне ведаць?

—Яна езьдзіла ў горад вучыцца на настаўніцу. А цяпер вярнулася і ў нас адчыніць дзіцячы сад.

—Што гэта за дзіцячы сад?—зьдзіўлена запытаў дзед Апанас.

—А мы ведаем, ведаем!—закрычалі дзеці.

—Ну, дык раскажэце і мне,—прасіў дзед.

—Узялі ў кулака Радзівона дом. Там зробяць дзіцячы сад. Калі нашы бацькі пойдуць на працу, дык мы будзем усе зьбірацца ў дзіцячы сад. Маня будзе з намі гуляць і даглядаць нас,—тлумачыў дзеду Кірылка.

—А то вось усе старэйшыя пашлі на поле, а мы адны дома,—скардзілася Верка.

— Вось бачыце, які Сьцёпка брудны.

— А ў дзіцячым садзе нас будуць карміць.

— Маня казала, што навучыць нас сьпяваць і гуляць у розныя гульні,—гаварылі дзеці.

У гэты час каля дзяцей прайшла Маня. Яна ласкава павіталася з малымі і весела сказала:

— Ну, даволі вам бегаць па вуліцы, скора будзеце хадзіць у дзіцячы сад.

— А калі? Калі пойдзем?

— Дні праз тры. Усё наладзім і тады пойдзеце,—адказала Маня і зайшла ў дом, дзе меўся быць адчынены дзіцячы сад.

— Як-жа яна адна з вамі справіцца?—сказаў Апанас.

— Яна у горадзе вучылася.

— Мы яе ўсе слухаць будзем,—адказвалі дзеці.

З нецярплівасьцю чакалі дзеці таго дня, калі яны пойдуць у дзіцячы сад. Весела было глядзець на іх радасныя тварыкі. Нават стары дзед Апанас і той усьміхаўся, гледзячы на вясёлых малалетак.



*Дзіцячы сад у вёсцы.*

# ПАВУК-КРЫЖАВІК



Я—павук-крыжавік,
Павуціньне сную,
І пра боскую моц
Свае песьні пяю.

Зазваню у званы,
Адурманю народ—
Хай нясуць медзякі
На мой тлусты жывот.

Вось бабулькі ідуць
На маленьне ка мне,
Нібы мухі паўзуць
Ў павуцьцё на сьцяне.

Толькі боязны мне
Піонэраў паход,—
Можа высахнуць мой
Трохпудовы жывот.

Піонэрскі фарпост
Утварае гурткі
Супроць бога майго,
Усёй маёй чапухі.

Піонэры багом
Падбіваюць гузы.
Прападаюць мае
Казырныя тузы.



# ШПАК

**Апавяданьне А. ПАЛЬЧЭЎСКАГА**

Перабылі зіму. Вясна цёплая, з кветкамі, прышла да нас. Птушкі на дрэвах пяюць. Усюды хораша. Зазелянела зямля травіцаю, збожжа пачало расьці. Радыя ўсе вясьне. Сягоньня, як прышлі ў школу, дык усе вучні пачалі прасіць Ігната Грыгоравіча:

— Хадзем, дзядзька настаўнік, гуляць на двор. Гляньце, як сонейка сьвеціць.

Праз некалькі хвілін звонкія галасы чуліся на школьным дварэ. Гэта вучні бегалі навыперадкі, гулялі ў закаўку, крычалі ад радасьці.

І раптам гэтую першую вясьняную гульню парушыў Юзік, дзевяцігадовы сын Міколы Чырыка. Юзік парушыў гульню, а Алесь гэта заўважыў і сказаў усім. Яны ўдвух гулялі ў хованкі.

Алесь стаяў, схаваўшыся за ліпу і сачыў, як Юзік шукаў яго. Вось ён бачыць, як Юзік нагінаецца і бярэ нешта ў правую руку.

— Што ён знашоў такое?— думае Алесь,—і ў гэты-ж час міжвольна ўскрыквае:

— Ай! што ты нарабіў?

Алесь выскачыў з-за тоўстае ліпы і бяжыць да Юзіка.



Юзік перапалоханым глядзеў на Алеся. Здавалася, што ён прасіў яго:

— Не кажы нікому.

— Я пайду настаўніку скажу, ня толькі настаўніку, усім скажу, хай ведаюць, які ты добры— гаварыў узлаваны Алесь.

І пашоў гаварыць, а за ім усьлед ішоў Юзік. На твары Юзіка была ні то злосьць, ні

то трывога за зроблены ўчынак.

Праз хвіліну з усіх куткоў шырокага двара беглі вучні ў адну купу. Пасярод гэтае купы стаялі настаўнік і Алесь.

— Я сам гэта бачыў, дзядзька настаўнік. Мы ў закаўку гулялі. Я стаяў за ліпаю і бачыў, як пусьціў ён камень на дрэва...

Усе маўчалі.

— Я незнарок. Я не хацеў— пачаў апраўдвацца Юзік.

— Дзіва, не хацеў. Каб не хацеў, дык не забіў-бы. А на што ты камень падымаў?—запытаўся Алесь.

— Я хацеў на дрэва кінуць яго—ледзь ня плакаў Юзік, апраўдваючыся.

— Гэта-ж твой таварыш,— нехта кальнуў Алеся.

— Які ён мне таварыш, раз такія штукі адпальвае,—ня сунімаўся Алесь.

— Бацьку сказаць трэба,— унёс хтосьці з вучняў прапанову.

— Мы самі разьбярэмся,— заўважыў настаўнік.

— Я больш ня буду так рабіць,—даваў абяцаньне Юзік.

Як толькі Юзік сказаў гэтыя словы, Алесь яшчэ больш залаваў. І найбольш выступаў супроць Юзікавага ўчынку Алесь— таварыш Юзіка.

Добра хаўрусавалі хлопцы. Шмат хто зайздросьціў ім.

Вось чаму цяпер Алесю зрабілася крыўдна, калі Юзік, яго таварыш, пачаў прасіцца, што больш ня будзе гэтак рабіць.

— Ты і тады мне казаў, што больш ня будзеш пушчаць каменьні ў птушак, а сёньня ад твае рукі загінуў шпак.

Алеся перапыніў настаўнік.




— Бачыце, дзеці, як нядобра зрабіў Юзік. Пазаўчора мы гаварылі аб карысьці птушак для чалавека. Шмат хто з вас шпакоўні зрабіў для іх, а адзін, вось бачыце, здрадзіў нам.

— Пакараць яго!

— Пакараць! — пачуліся галасы.

Настаўнік працягваў далей:

— Ён кажа, што незнарок Усё можа быць. Але нашто тады пушчаць каменьні, калі хочаш каб жылі птушкі.

— Дзядзька настаўнік, дзядзька настаўнік, ён сумысьля забіў,—ня ўтрымаўся Алесь.

— Адкуль ты ведаеш?—заступіўся хтосьці з вучняў за Юзіка.

— А вот і ведаю. Мы ішлі аднаго разу, дык ён кідаў каменьнямі ў птушак. Я пастрашыў настаўнікам, дык ён прасіў, каб я не казаў і абяцаў больш ня кідаць. А летась, як пасьвілі коні на беразе Вусы, дык ён раскапаў нару беражанак.

— Успамінае леташні сьнег,—засьмяяўся Ігнаська, вясёлы вучань.

— Нічога тут сьмешнага няма,—заўважыў настаўнік.—Бачыце самі, зьнішчаць птушак, разбураць іх гнёзды ў Юзіка зайшло ў прывычку. Гэта вельмі дрэнна. З гэтым трэба змагацца—ня браць такіх на экскурсію.

— Напісаць у газэту.

— Ды з малюнкам яшчэ,—пасыпаліся прапановы.

Усе прымалі актыўны ўдзел у прысудзе.

Зазваніў званок на перапынак. Выбеглі з будынку трэцяя і чацьвертая група. Усе зьліліся ў адну гульлівую сям'ю.

Усё жыло, усё бурліла маладосьцю, радасьцю. Толькі шпак адзін ляжаў, без пары загінуўшы ад рукі Юзіка. А яму так хацелася жыць.

---

Назаўтра ў насьценнай газэце „Школьная Праўда“ красаваўся артыкул пад назваю „Шкоднік“. Усе ведалі пра каго, але кожнаму хацелася прачытаць. Вельмі-ж ужо мастак чацьвертае групы размаляваў Юзіка. Стаіць гэта Юзік на высокіх нагах і пушчае каменьнямі ў птушак, а тыя разявілі свае дзюбкі і просяцца ў яго:

— Не чапай нас, хлопча, мы твае памочнікі, мы зьнішчаем шмат чарвей, тваіх ворагаў, весялім цябе сваімі песьнямі...

Колькі было гаворкі ва ўсіх пра гэтую заметку. А напісаў яе ў газэту найлепшы сябрук Юзіка—Алесь.

— А як сход будзе, дык газэту ў Нардом занесьці, хай усе пачытаюць, — прапанавалі вучні.

К. УШЫНСКІ

# НАГЛЯДАЛЬНАСЬЦЬ



Індзеец Паўночнай Амэрыкі вярнуўся ў свой шалаш і ўбачыў, што акорак сьвініны, які ён павесіў на дрэва падсохнуць, быў украдзены.

Індзеец агледзеў уважліва месца, дзе адбылася пакража, і пусьціўся ў дарогу даганяць злодзея.

Ва ўсіх, каго толькі ні сустракаў, індзеец пытаўся: ці ня бачыў ён старога белага чалавека, невялікага росту, з кароткаю стрэльбаю і малым сабакам, у якога доўгі і калматы хвост. Многія адказвалі яму, што сапраўды бачылі такога чалавека; але ў той час пыталіся, як ён мог так падрабязна апісваць чалавека, якога ніколі ня бачыў.

„Што злодзей невялікага росту“, адказваў індзеец „гэта я здагадаўся праз тое, што ён павінен





быў падкладваць каменьні, каб зьняць акорак, які я павесіў, стоячы на зямлі; што белы—я ведаю гэта па тым, як ён вывaрачвае свае пяткі, чаго індзеец ніколі ня робіць; што стары—я ведаю гэта па кароткіх шагох, сьляды якіх засталіся на лісьцях у лесе. Што стрэльба яго кароткая, гэта я бачыў па тым, што, паставіўшы яе каля дрэва, ён сашмаргнуў крыху кару. Сабака яго невялікі—гэта відаць па яго сьлядох, а што ў яго калматы хвост—гэта я заўважыў па знаку, які ён пакінуў на пяску, калі сядзеў і аблізваўся, пакуль гаспадар яго краў мой акорак“.



# ГАРОШЫНКІ

*Апавяданьне І. КАГАНОЎСКАЙ*

*Малюнкі РОЗАНАВА*

Цёця Надзя ўвосень зьнімала з дзецьмі стручкі гароху на колгасным гародзе. Гароху было многа, і ўсе дзеці зрывалі стручкі і вылушчвалі гарошынкі. Маленькі Вова кінуў некалькі гарошынак на зямлю. Дзеці кінуліся падняць іх; цёця сказала:

— Няхай гарошынкі застануцца ляжаць тут праз зімку.

Дзецям шкада стала гарошынак:

— Цёця, яны могуць памерзнуць.

— Нічога, дзеткі, пакінем іх тут і паглядзім, што з імі будзе.

Дзеці паслухалі і не чапалі гарошынак.

Прышла зіма. Дзеці часта выходзілі на гарод глядзець гарошынкі. Але сьнег, нібы белая мякая коўдра, пакрыў зямлю. Часта гаварыла дзяўчынка Мая:

— Цёця, дастанем гарошынкі. Яны памерзнуць пад сьнегам.

Рэм, якому старэйшы брат шмат чаго расказваў, заўважыў:

— Сьнег для гарошынак — добрая коўдра. Ім там цёпла.

Мая і іншыя дзеці зьдзіўлена глядзелі на Рэма.

Мінула зіма. Цёплыя сонечныя праменьні і першы жаўранак, і вясёлыя клапатлівыя ручайкі,— усё крычала:

— Дзеці! Вясна прышла. Скіньце зімовую вопратку, выгляньце на вуліцу і зірнеце на сонейка, на дрэвы; слухайце вясновы гоман!

Дзеці з цёцяй вышлі ачышчаць гарод. Яны доўга ня былі тут і заўважылі:

— Тут траха што няма сьнегу, і сям-там травінкі выглядваюць.

Шустры Рэм заўважыў некалькі высокіх, тонкіх травінак.

— Якія прыгожыя травінкі, адкуль яны ўзяліся?

Засьмяялася цёця.

— Вам шкада было пакінуць горошынкі пад сьнегам. А гэта і ёсьць нашы гарошынкі. Яны ляжалі пад сьнегам, нібы ў пух-





кай, цёплай пасьцельцы. Сьнег, як цёплая коўдра, грэў іх. Гарошынкі выпусьцілі расточкі і чакалі, пакуль сонейка не растопіць сьнег. Цяпер глядзеце якія прыгожыя сьцяблінкі выглядваюць з зямлі. Прыгрэтыя праменьнямі сонца, нашы гарошынкі будуць хутка расьці. На сьцяблінках вырасьце шмат стручкоў. У кожным стучку будзе па некалькі такіх самых гарошынак. Вось бачыце, дзеці, гарошынкам ня кепска было пад сьнегам.

А Рэм, здаволены, сказаў:

— Сьнег для гарошынак быў цёплай мяккай коўдрай.

---

# ЦЬВЁРДАЯ СКУРА

**Апавяданьне Я. ГАШЭКА** [1])

Дзеці вёскі Каруповай запомнілі з гісторыі старога закону боскага толькі адно. Гэта тое, што ласкавы, мілы бажок стварыў балота з лазою, а пасьля балота—настаўніка закону боскага, патэра Горачку. Абодвы гэтыя стварэньні адно другое дапаўнялі.

Потым пан бажок параіў людзям рабіць з лазы дубцы, а патэру Горачку спрабаваць мацунак гэтых дубцоў на некаторых часьцінах цела сваіх вучняў.



[1]) У гэтым апавяданьні Я. Гашэк (чэскі пісьменьнік) паказвае нам, як вучаць у буржуазных школах дзяцей беднаты. Гэтак вучылі і ў нашых школах да рэвалюцыі.

Звычайна гэта рабілася так. Патэр Горачка прыходзіў у клясу, з жалем пазіраў на хмурых вучняў і казаў:

— Ванітэк, тупіца ты дурная, мне здаецца, што ты ня зможаш пералічыць сем самых важных грахоў ад канца да пачатку.

Такіх пытаньняў патэр выдумліваў многа.

Гэта была сапраўдная боская арытмэтыка, якая звычайна канчалася лупцоўкай, вельмі патрэбнай, па думцы патэра, калі вывучаеш боскія навукі.

Лупцоўку наладжваў патэр так: браў, аднаго за другім, вучняў, клаў сабе на калена і лупцаваў дубцом па азадку. Пры гэтым патэр усьміхаўся і прыгаварваў:

— Хвалеце бога за тое, што лупцую вас я, а ня хто іншы.

Аднаго разу вучань Вепрык пахваліўся ўсім пра навіну, якую ён чуў: нібы, калі намазаць дубец часныком, дык ён альбо вельмі скора зломіцца, альбо ня так баліць.

Дзеці зарадаваліся. Усе спадзяваліся, што ім такім спосабам удасца пазбавіцца ад гэтай боскай пакуты. Але надзеі вучняў ня спраўдзіліся.

Дубец быў такім-жа моцным і балела ад яго так-жа сама, як і раней.

Пасьля лупцоўкі вучняў такім дубцом, патэр сказаў дзецям яшчэ цэлую казань, у якой давodзіў, што яны хацелі зрабіць ашуканства, ашукаць самога бога, што за пакражу часныку ён будзе лупцаваць іх асобна.

Вучні былі напалоханы боскаю караю, ім з самых малых дзён прышчапялі гэтую веру ў бога.

— Ясна,—сказаў патэр,—што ўсе вы, апрача Венушака і Здэнэка (гэтых вучняў не лупцавалі, бо бацька Здэнэка быў багатым селянінам, членам школьнага савету, а Венушак быў сынам кіраўніка панскага маёнтку), скончыце свае жыцьцё на шыбельніцы.

Так міналі дні за днямі. Здавалася, што ніякага паратунку ад лупцовак больш ня прыдумаеш. Аднак кульгавы Мельгуба нешта такое прыдумаў. Ён сабраў усіх вучняў і расказаў ім пра сваю хатнюю практыку. Мельгуба напхаў у штонікі паперы і скінуў з паліцы збанок з малаком. За пабіты збанок яго зараз-жа адлупцавалі, але балела ня так, як звычайна. Папера дапамагае ў такіх выпадках!—зрабіў вывад Мельгуба.

З гэтага дня ўсе сталі зьбіраць паперу. Містэрка, сын крамніка, кожны дзень прыносіў многа рознай паперы, гэтага лякарства ад пастаравых дубцоў.

Але скора патэр заўважыў, што дзеці ані больш не баяцца яго лупцовак, як гэта было раней.

Патэр доўга думаў, чаму гэта так сталася. Нарэшце ён прышоў да думкі, што ў вучняў ад частых лупцовак нарасла цьвёрдая скура. І цяпер, каб ня страцілі дзеці ахвоты да закону божага, трэба здабыць новы дубец, значна таўсьцейшы і цяжэйшы. Пан-жа бог стварыў лазу рознай велічыні і таўшчыні.

Такі новы дубец назаўтра ўжо гуляў па азадках дзяцей. Зноў гэты раз самы тоўсты дубец, які ў яго быў. Ад яго прамакальная папера рвалася на кавалкі.

— Цяпер у нас няма ніякага паратунку,—уздыхаў Мельгуба.

На другі дзень на занятках патэр, як і звычайна, выставіў у рад пятнаццаць вучняў, сярод якіх быў і Вепрык.

Патэр палажыў Ветрыка сабе на калена і лупянуў з усяе моцы



бяда вучням. Трэба было зноў нешта прыдумаць, каб выратаваць сябе ад пакуты. І той-жа самы кульгавы Мельгуба зноў прыдумаў новы спосаб: прамакальная папера лепш чым звычайная ратуе ад болю.

Патэр лупцаваў дзяцей і цяжка уздыхаў.

— Божа моцны, якая-ж у іх цьвёрдая скура!—і зноў папрасіў Містэрку, каб ён купіў у бацькі яшчэ таўсьцейшы дубец.

Бацька Містэркі выбраў на тоўстым дубцом па азадку. Пачуўся стук, нібы хто гакнуў калом па блясе. Зьбянтэжаны патэр выпусьціў вясёлага Вепрыка.

— Скідай штаны!—закрычаў ён.

Вепрык перастаў усьміхацца, спусьціў штонікі, выняў з іх і падаў патэру бляшаную дошчачку, якую ён учора цішком зьняў у касьцёле. На бляшанцы патэр з жахам прачытаў „Ахвяруйце на дом боскі“.

# Цэлюлёідны таварыш



*Урывак з кніжкі В. СЬМІРНОВАЙ „Манои“ [1]). Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*

Назаўтра браты павялі Бронэка ў школу. Яны ішлі сьпераду, а Бронэк нёс за імі іх кніжкі.

У школе былі высокія халодныя пакоі, блішчастыя падлогі, і чысьценькія, з гладка прылізанымі прычоскамі хлапчукі хадзілі важна па калідоры. Браты падышлі да тоўстага чалавека, адзетага ў мундзір, з тварам падобным на морду бульдога, стукнулі нагамі і сказалі:

— Ваша міласьць, мы прывялі новенькага. Ён нам далёкая радня.

Бульдог выпучыў грудзі і выскаліў вялікі рот з залатымі зубамі.

— Дзе ён?—прабурчаў бульдог.

Браты выставілі Бронэка наперад. Бульдог вылупіў вочы і сказаў, падняўшы палец:

— Няможна... Няможна вучню нашай школы мець такі выгляд. Што гэта?—і ён тузануў Бронэка за віхрасты чуб.— А гэта што?—ён пстрыкнуў Бронэку ў жывот, і наступіў сваёю цяжкаю нагою на яго савецкія балеткі.

— Усё па форме! Прыгладзіцца, падцягнуцца, у струнку стаяць!

— Цалуем ручкі, — сказалі браты,—будзе ўсё зроблена.

Бульдог закрыў ляпу і адвярнуўся ад іх. Асьцярожна ступаючы па блішчастай падлозе, дзеці пашлі ў клясу. Настаўніка яшчэ ня было, і пасярод клясы два хлапчукі барукаліся паміж сабою. Убачыўшы Бронэка, усе закрычалі:

— Новенькі! Новенькі!

Юзік важна вытлумачыў, што яшчэ да залічэньня ў школу кожнаму новенькаму наладжваецца „спроба“

— Будзеш увесь у сіняках, але затое прымуць у сваё таварыства.

---

1) Пачатак глядзі ў № 4.

— Добрае таварыства, дзе пачынаюць з бойкі! — сказаў Бронэк.

Вучні закрычалі:

— Рыхтуйся! — і раптам усім гуртам накінуліся на Бронэка. Спачатку ён ня ведаў, што рабіць, як бараніцца. Потым абмацаў у кішэні цэлюлёіднага таварыша, ускочыў на вакно і закрычаў:

— Рукі прэч ад краіны Саветаў! У нас ёсьць абаронца! — і высока падняў чырвонаармейца.

Хлапчукі ашаламаціліся, напалохаліся і паціху, адзін за другім, падаліся да дзьвярэй.

— Ён бальшавік, — шапталіся хлапчукі, — чорт яму дапамагае.



*— Няможна... Няможна вучню нашай школы мець такі выгляд.*

У гэты час у клясу ўкаціўся кругленькі чалавечак на тоненькіх ножках, з лысаю галоўкаю і заскогліў тонкім галаском:

— Сьмірна!

Хлапчукі, як мышы, паразьбягаліся на месцы, Бронэк саскочыў з вакна. Кругленькі настаўнік узьлез на ўзвышанае месца, і хлапчукі прасьпявалі нешта сумнае на незразумелай мове.

— Гэта малітва, — шапнуў Бронэку сусед. — Мы просім бога, каб памог нам вучыцца.

— Маўчаць! — закрычаў настаўнік, і стала зусім ціха. Хлапчукі стараліся ня дыхаць.

— Ты! — штурхануў настаўнік аднаго вучня. — Аб чым мы гаварылі ўчора?

Вучань закалаціўся ўсім целам, устаў і прамармытаў:

— Ваша міласьць, вы казалі... э-э-э-э... пра караля...

— Праўда. Я казаў пра караля. Польскі кароль быў магутны, мудры і міласьцівы.

— Хіба-ж каралі бываць такімі? — запытаўся Бронэк.

— Маўчаць! — закрычаў настаўнік. — Польскае каралеўства было самым магутным у сьвеце і цягнулася ад мора да мора. Польскі народ быў самы шчасьлівы з усіх народаў!

— Гэта праўда, ці вы выдумляеце? — зноў запытаўся Бронэк. — Народу ня бывае добра за царамі.



*— Што ты ведаеш пра Карлу Вялікага, Карлу Лысага...*

— Хто асьмельваецца мяне перапыняць? Калі я кажу, значыцца, гэта так! Ты ведаеш больш за мяне? Паглядзім! Ідзі сюды!

Бронэк вышаў наперад і стаў перад настаўнікам.

— Ну, што ты ведаеш пра Карлу Вялікага, пра Карлу Лысага, пра Карлу Сьмелага, пра Карлу Талстога?

— Ух, колькі Карлаў!—зьдзівіўся Бронэк.—Хто яны такія?

— Ня ведаеш? Гэта былі імпэратары!

— А!—сказаў Бронэк.—Гэтых Карлаў я ня ведаю. Затое я ведаю другіх: Карла Маркса, Карла Лібкнехта...

— Маўчаць! — зашыпеў настаўнік і, зьбегшы з узвышанага месца, схапіў Бронэка за вуха.— На калені! У карцар! Без абеду!

Бронэк вырваўся і кінуўся наўцекі. Настаўнік за ім. Але тоўсты, кароткі настаўнік не пасьпяваў за шустрым Бронэкам. Цэлюлёідны таварыш выкінуўся з кішэні Бронэка і трапіў пад ногі настаўніку, той пакаціўся на падлогу.

— Уміраю!—залемантаваў ён.

Дзьверы адчыніліся, і ўбег бульдог.

— Што гэта такое? А, гэта новенькі?

Раптам ён убачыў цэлюлёіднага таварыша, і разявіў ляпу так, нібу хацеў праглынуць яго.

— Савецкая зараза? — зароў ён.—Вон! Вон!

Хлапчукі напалохаліся і падаліся назад, настаўнік папоўз у куток. Бронэк нагнуўся і падняў свайго таварыша.

— Гэта мой таварыш.

Усе закрычалі, замахалі рукамі. І Бронэк з цэлюлёідным таварышам былі выгнаны са школы.

Цётка сказала, нахмурыўшыся:

— Які неспакойны хлапчук: ён ня можа жыць ціха; ён нават ня хоча вучыцца ў школе, дзе вучацца дзеці самых багатых, славутых і ганаровых бацькоў.

Няхай ён тады ідзе на фабрыку. Я не хачу карміць яго дарма.

І Бронэк падаўся на фабрыку.

— Ну, вось тут зусім, як у нас,—сказаў ён, убачыўшы варштаты, машыны і рабочых у сініх рубашках.

Але скора ён убачыў, што і тут было ня так.

Яго завялі ў тую частку фабрыкі, дзе працавалі дзеці. Дзеці былі худыя, кепска адзетыя. Ён хацеў загаварыць з імі, але яны баяліся і паказвалі на пpыганятага майстра, які дзіка крычаў на іх і біў. Бронэка пасадзілі за работу. Скора ён змарыўся, але гудка ўсё ня было. Яму захацелася есьці, у вачох у яго пацямнела, ён траха ня скінуўся з табурэткі.



*— На рабоце ня сьпяць. Можаш ісьці дахаты...*

— Калі-ж гудок?—запытаўся ён у прыганятага.

Той зьдзівіўся, потым засьмяяўся.

— Бачыш, які гультай! Папрацуй вось гадзін дзесяць,— і моцна ўшчыпнуў яго за вуха.

Бронэк глядзеў на другіх дзяцей і бачыў, як яны ўвачывідкі бялелі, вочы ў іх чырванелі, рукі дрыжалі, але яны цярпелі і працавалі. Адзін з іх, самы меншы, ня вытрымаў, палажыў галаву на стол і заснуў. Прыганяты прабудзіў яго і сказаў:

— На рабоце ня сьпяць. Можаш ісьці дамоў!

Бронэк рад быў, што яго пасылаюць дахаты, але прыганяты сказаў:—І ня прыходзь болей. Нам непатрэбны гультаі і санулі.

Той пачаў плакаць, але нічога не памагло, і прыганяты выгнаў яго вон. Бронэк сказаў:

— Што-ж гэта такое? Працаваць-жа трэба толькі шэсьць гадзін.

— Тут табе не Савецкая краіна, каб разводзіць далікатнасьці!—злосна адказаў яму прыганяты.

Нарэшце доўгачаканы гудок прагудзеў. Дзеці пакінулі работу, дасталі чэрствага хлеба з салёнымі агуркамі і пачалі есьці. Яны падышлі да Бронэка.

— Адкуль ты?

— З краіны Саветаў.

Дзеці зарадаваліся, пачалі распытваць аб усім, што і як робіцца ў СССР. Бронэк паказаў ім свайго таварыша, дзеці бралі яго на рукі, цалавалі і гладзілі.

— Мы зробім так,—сказаў Бронэк:—мы будзем усе дапамагаць таму, хто вельмі зморыцца. Тады нам будзе лепш.

— А калі прыганяты ўбачыць?

Бронэк паказаў на свайго таварыша:

— Ён у нас будзе на варце. Мы яго прывесім на аборцы каля дзьвярэй: як толькі прыганяты будзе падыходзіць, таварыш будзе стукаць у сьцяну, і мы будзем ведаць. А пасьля гудка я вам буду гаварыць пра СССР.

Усё ішло добра. Дзеці павесялелі, ажывіліся.

Але аднаго разу здарылася бяда. Прыганяты майстра ўбачыў, што дзеці пачалі лягчэй спраўляцца з работаю, і прыбавіў ім яшчэ работы.

— Ого!—сказаў Бронэк цэлюлёіднаму таварышу. — Якія яны хітрыя! Не, браток...

І Бронэк унёс прапанову наладзіць забастоўку. Пасьля гудка дзеці селі на свае месцы, але ніхто не працаваў. Прыганяты майстра бегаў і лаяўся.

— Гэта ўсё новенькі бунтуе,— сказаў ён і схапіў Бронэка за каўнер,—гэта твая работа?

— Пусьцеце! — сказаў Бронэк.—У вас ёсьць дзеці?

— Ёсьць!—адказаў той зьдзіўлена.

— А ну дайце ім такую работу!

Зьбянтэжаны прыганяты пабег да дырэктара. Вусаты дырэктар зірнуў праз вялікія акуляры на Бронэка, узяў яго за вуха і сказаў:

— Выкінуць гэтага... і другіх таксама...

Бронэк хацеў вырвацца, але дырэктар моцна трымаў яго. Тады Бронэк стукнуў яму цэлюлёідным таварышам па твары. Зялёны шлем раптам трэснуў і прышчаміў дырэктару вус.

— Ай-ай!—закрычаў дырэктар.—Малпа! Яна адарве мне вусы!

Падбег прыганяты і вызваліў дырэктара. Дырэктар асьцярожна схапіў цэлюлёіднага таварыша за тулава і панёс на двор. Дзеці пабеглі ўсьлед за ім. На двары фабрыкі рабочыя расклалі агонь варыць асфальт. Яны расступіліся і дырэктар падышоў да агню.

— Вось!—сказаў ён і кінуў цэлюлёіднага таварыша ў самую сярэдзіну агню.

— Піф-паф — пачуўся страшэнны трэск, тысячы іскраў паляцелі кругом. Акуляры дырэктара трэснулі, ад вусоў засталося адно абсмаленае шчаціньне пад носам.

Дзеці глядзелі на гэта, сьціскалі кулакі і гразіліся дырэктару.

Бронэк засьмяяўся і закрычаў:

— Нічога! Вы забралі ў мяне цэлюлёідная таварыша,—замест яго ў мяне тут многа жывых.



*Пачуўся страшэнны трэск, тысячы іскраў паляцелі кругом.*

С. МАРШАК

# ПЯТРУСЬ-ЧУЖАЗЕМЕЦ

**(Жартаўлівая п'еска).**

*(Бацькі ўваходзяць, вядуць Пятруськуі нясуць па клуначку).*

**Бацькі.**

Дзень добры, дарагія акцябраткі!
Вядзем Пятруся мы на заняткі.
Мы бацькі яго, татка і матуська,
А гэта,—сынок наш, Пятруська.

**Пятрусь.**

Вы, малыя, аб чым тут лапочаце?
А пабіцца са мною ня хочаце?
Дужайся са мною чалавек сто,—
Цэлы ня будзе ніхто!
Выходзь на мяне чалавек дзьвесьце,—
Усіх пакладу я на месцы!

**Бацькі.**

Ужо досыць позны час;
Пасьпяшайся, Пятрусь, у клясу.
Вось табе кніжкі, алоўкі,
Вось табе цыбулі галоўка,
Вось табе бульбяная галушка,
Пакладзі яе ў сваё брушка.

**Пятрусь.**

О, я сёньня інвалід,
У мяне жывот баліць.
Не магу варочацца.
Вучыцца ісьці ня хочацца.

**Бацькі.**

Дык, калі ты нездароў,
Мы паклічам табе дактароў:
Дадуць табе валер'янкі,
Паставяць табе банкі;
Праляжыш ты ў ложку з месяц,
Салодкага не дадуць табе есьці.

**Пятрусь.**

Вой, ня трэба дактароў!
Я зусім ужо здароў.
І ня буду я лячыцца,
Паспрабую лепш вучыцца.

*(Бацькі адыходзяць. Прыходзіць Алеся).*

**Пятрусь.**

А, дзень добры, Алеська ўдалая,
Суседка наша дарагая.
Як справы твае? На табе кніжкі мае.
Занясі іх дадому,
Ды не паказвай нікому.
Ну, Алеська, бывай!

**Алеська.**

Ах, ты гультай, гультай!

**Пятрусь.**

Ну, а цяпер я вольная птушка,
Буду цешыцца з свае волі.
Незадарма я шустры Пятруська.
А вучыцца ня буду ніколі.

**Бацькі.**

Стой, Пятруська, супыніся,
Ты алоўкі ўзяць забыўся.

**Пятрусь.**

Ой, ой, трэба ратавацца!
Ад бацькоў трэба схавацца.
Эх схаваюся на мінутку
Я ў гэтую вось будку.

*(Пятруська ўлазіць ў будку. Уваходзіць інвалід).*

**Інвалід.**

Я—інвалід.
А хто гэта ў маёй будцы сядзіць?
Эй, ты, вылязай!

**Пятрусь.**

Дзядзька інвалід, не праганяй!
Будзем разам гандляваць,
Папяросы прадаваць.
Гэй, даўганосы!
Табе якія патрэбны папяросы?

**Падарожны.**

Што за дзіўнае пытаньне?
Ніколі ня курыў, ані званьня.

**Пятрусь.**

А вось курыш!

**Падарожны.**

Не, ня куру.

**Пятрусь.**

Вось табе портсыгары,
А вось запалак пара,
Вось пачка „Саветаў",—
30 капеек гані за гэта!

**Падарожны.**

Эх, і злодзей-жа ты спрытны!

Просіш грошай?—Маўчы, вытну!
Вось табе, блазьнюк.

*Кідае папяросы, штурхае будку, будка падае, Пятрусь варушыцца ў ёй).*

**Пятрусь.**

Дзядзька інвалід, ратуй!

(*Уваходзіць дворнік і пажарнік*).

**Дворнік.**

Я падмятаю дворык,
Дзяжуру у суботу, чацьвер, аўторак.
Стаю ўсю ноч, падняўшы каўнер.
Сьцерагу ад зладзеяў горад.

**Пажарнік.**

Я пажарнік,—работнік-ударнік.
Што гэта знача?
Чаму гэта будка скача?
Давай, дворнік, з табой разам
Вядро вады выльлем адразу.

(*Паліваюць*).



**Пятрусь.**

Ой, ратуйце, каравул!
У вадзе зусім я патануў!
Дожджык, дожджык, супыніся,
Я даўно вады напіўся!
Дожджык, дожджык, годзе ліцца!
Надакучыла прасіцца!

*(Пятрусь вылазіць з будкі і бяжыць па сцэне, а ўсе за ім гоняцца. Абягаюць кругом сцэны. Усе застаюцца за кулісамі, а Пятрусь зноў прыбягае).*

**Пятрусь.**

Ой, ратуйце мяне, акцябраты.
Бяжыць за мною дворнік з лапатай,
Бацькі мяне шукаюць,
Пажарнікі абліваюць.
Прышоў Пятрусю каюк...
Бедны, бедны я хлапчук...

*(Сеў на падлогу і задумаўся. Марожаншчык вязе скрыню з марожаным).*

**Марожаншчык.**

Я марожаншчык прыежджы,
У мяне тавар ёсьць сьвежы,
Скрыня мая новая,
А ў ёй сметанковае
Ма-а-аро-жа-а-на-е-е!

**Дзеці.**

Дзядунька, даражэнькі!
Дай марожанага нам, маленькім!

**Марожаншчык.**

Якога?

**Дзеці.**

Ружоваго.

(*Дзед дастае марожанае, а Пятрусь тым часам залазіць у скрыню*).

**Марожаншчык**

*(спрабуе паехаць, а скрыня ня рухаецца з месца).*

Ах, каб ты праваліўся, як я змарыуся!
Прадаў тавару рублёў на дзьвесьце,
А скрыні ня зрушыць з месца.
Марожанае... Сьметанковае...

**Пятрусь** *(з скрыні).*

Гутунковае...

**Марожаншчык.**

Сунічнае...

**Пятрусь.**

Заграні́чнае...

**Марожаншчык.**

Па галушцы на пятак.

**Пятрусь.**

Вельмі добрае на смак...

**Марожаншчык.**

Цукернае...

**Пятрусь**

Папернае...

**Разам**

Ма-а-а-ро-о-жа-а-на-е.

**Пятрусь**

Ну і холадна, не сьцярпець,
Лепш-бы ў школе сядзець!

**Марожанщчык.**

Хто гэта ў скрыні бурчыць?
Марожанае заўжды маўчыць!

**Пятрусь.**

Гэта кішкі ў цябе
У тваім жываце.
Падесьці табе трэба!

**Марожаншчык.**

Праўда, нічога ня еў апрача хлеба.
Вось прадам яшчэ на рубель з паловаю.
Дый пайду пасьнедаць у сталовую,
Марожанае, сунічнае!..

**Падарожны.**

Эй, дзядзька дай мне марожанага!
*(марожаншчык хоча дастаць марожанага, але са скрыні выскаквае Пятрусь).*

**Падарожны.**

А гэта марожанае якога сорту?
Ты нашто трымаеш чорта?

**Марожаншчык.**

Ах ты такі, сякі!
Цячэ з цябе, як з ракі.

**Пятрусь.**

Ах, якое добрае спатканьне!
Дзякую вас, дзядзька, за памяшканьне.

*(Пятрусь уцякае. За ім гоняцца інвалід, марожаншчык, падарожны, дворнік і пажарнік. Зноў абягаюць вакол сцэны. Усе застаюцца, а Пятруська выходзіць адзін).*

**Пятруська.**

Ратуйце мяне, акцябраты,
Шукае мяне дворнік барадаты,
Інвалід з папругаю,
Нейкі дзядзька з пугаю.
Гоняцца пажарныя да ўсе вялізарныя,



Ляцяць за мною наўздагон.
Бяда, дух з мяне вон!
Пашукаю сажалкі, палічу да двух,
А потым у воду—бух...
Раз, два,—прапала мая галава.
Бывайце, акцябраткі,
Бывай мамка і татка.

*(Заўважыў на беразе вопратку).*

А гэта што за пальто?
А вось ляжаць і штаны,
І нікому, як відаць, не патрэбны яны.
Апрануся я ў новыя штаны ды пальто
І не пазнае мяне ніхто.
Я Пятрусь-чужаземец,
Прыехаў з гораду Казлова,
Па-беларуску ні разумею ні слова:
Ані-бані, тры канторы.
Сахер, махер, памідоры.

**Бацькі.**

Добры дзень, любыя акцябраткі!
Вялі мы Пятруся на заняткі.
Мы бацькі яго, татка ды матуська.
Прапаў наш сыночак Пятруська
*(плачуць).*

**Матулька.**

Бацька, вунь ідзе чалавечак маленькі,
На сынка ён падобны, глядзі, даражэнькі!

**Бацька.**

Грамадзянін, прашу прабачэньня,
Узьнікаюць у нас сумненьні:
Быў сыночак адзіны ў нас
Кропля ў кроплю падобны да вас...

**Пятрусь** (*з гонарам*).
Чакаляд, мармалад, дэ-гурмэ.
Я па-беларуску не разумэ.
**Бацька.**
Выбачайце, памыліўся я значыць.
Вочы сталі слабыя, прашу прабачыць.

(*Уваходзяць марожаншчык і міліцыянэр*).




**Марожаншчык.**
Таварыш міліцыянэр!
Набівайце хутчэй рэвольвер,
Калі можаце, дык і пушку.
Застрэльце вы Пятруську!
Ён сапсаваў мне ўвесь тавар,
Асьмяяў на ўвесь базар.
Растапіў увесь мой лёд,
Каб ён прапаў, аблезлы кот!
**Міліцыянэр**
Адкажэце, грамадзянін,
Як завуць вас?
Чый вы сын?
А жывеце зараз дзе,
І жанаты вы ці не?
**Пятрусь.**
Бульён, бутэрброт, кансомэ.
Я па-беларуску ні бэ, ні мэ.
**Марожаншчык.**
Дармо! Як пасядзіш тры месяцы ў турме,
Дык будзе табе і бэ, і мэ.
**Алеся.**
Гэта-ж ты, гультай Пятрусь!
Вазьмі свае кніжкі ды ня хлусь.
**Пятрусь.**
Даруйце мне, акцябраты,
Даруйце мне, дворнік барадаты.
Даруйце бацькі дарагія,
Ужо ня буду благі я.
Больш ня буду ўжо маніць,
У школу буду я хадзіць.
**Усе.**
Мы наказ табе даём,
Каб ня быў ты гультаём!
**Алеся.**
Я ня буду ўжо сварыцца.
Хадзем, Пятруська, мы вучыцца!
**Усе сьпяваюць:**
Усе павінны мы вучыцца,
Усе павінны ведаць шмат.
Дружна жыць і не сварыцца,
Адну сям'ю мець з акцябрат.

*Пераклад з расійскае мовы.*

---

Выдавецтва
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: ГАЙДУКЕВІЧ, ЯКІМОВІЧ А.

ЦАНА 18 КАП.

ПАДПІСВАЙЦЕСЯ
НА АДЗІНУЮ Ў БССР ДЗІЦЯЧУЮ ЧАСОПІСЬ

# ІСКРЫ

## БЯРУ НА СЯБЕ АБАВЯЗАК

Я пачаў пашыраць часопісь „Іскры Ільліча“. На красавік месяц сабраў падпіскі на 21 экзэмпляр. На май бяру на сябе абавязак сабраць ня менш, чым на 70 экзэмпляраў.

**Вучань Я. Завадзкі.**

ПІОНЭРЫ, АКЦЯБРАТЫ, ВУЧНІ!

А ШТО ВЫ ЗРАБІЛІ ДЛЯ ПАШЫРЭНЬНЯ СВАЕ ЧАСОПІСІ?

ЦІ ВЫПІСАЛІ ВЫ НА ЎСЕ ЛЕТА „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“?

БЯРЭЦЕ ПРЫКЛАД З ВУЧНЯЎ ЗАВАДЗКОГА і ДУБОВІКА.

## ТРЭБА ПАДЦЯГНУЦЦА

Вучні чацьвертай групы Каніцкай школы мала выпісваюць часопісі „Іскры Ільліча“. Вылучаны ўпаўнаважаны па збору падпіскі, але ён нічога ня робіць. Трэба падцягнуцца.

**В. Хомчанка.**

## АБВЯШЧАЮ СЯБЕ УДАРНІКАМ ПА ЗБОРУ ПАДПІСКІ НА ЧАСОПІСЬ

Я, вучань Стара-Маргоўскай школы, Вузьдзенскага раёну абвяшчаю сябе ўдарнікам па пашырэньні часопісі „Іскры Ільліча“. Бяру на сябе абавязак на чарговы месяц сабраць падпіскі на „Іскры Ільліча“ ня менш, чым на дзесяць экзэмпляраў.

Выклікаю ўсіх акцябрат і вучняў узяць з мяне прыклад.

**Васіль Дубовік.**

АКЦЯБРАТЫ! ВЫ ПАВІННЫ СТАЦЬ УДАРНІКАМІ ПА ПАШЫРЭНЬНІ „ІСКРАЎ ІЛЬЛІЧА“.

## НАША ПАЖАДАНЬНЕ

Мы, вучні другое групы Амговіцкай школы, вельмі задаволены часопісьсю „Іскры Ільліча“. У нас мала кніжак і мы шмат карыстаемся часопісьсю. Пажадана, каб у часопісі больш друкавалася аб нашай прамысловасьці.

**Вучні.**

# ІЛЬЛІЧА

Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 919. Тыраж 5.600. Галоўлітбел № 1194.